

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьлiку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна
**Банкавае конто:** Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechsel-Bank, München.

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 41 (223) — Нядзеля 7 лістапада 1954 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 8

# Моцны фундамант задзіночаньня

Канчальны правал Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці, над якой заходнія дзяржавы ламалі галовы звыш трох год, каб напасьледак, у сувязі з нэгатыўнай пазыцыяй Францыі, ад яго адмовіцца, меў той добры вынік, што вывяў Заходнюю Эўропу із стану нездэцыдаванасьці й нерашучасьці. Пасьля правалу праекту Эўрапэйскай Арміі паўстала ў плянах абароннай сыстэмы Захаду парожняе месца, якое трэба было нечым запоўніць і шыбка запоўніць у ваблiччы што раз больш узрастаючай загрозы з боку чырвонае Масквы. Трэба прызнаць, што заходняэўрапэйскія палітыкі гэтым разам здалі свой эгзамін на выдатна.

Імкненьне да задзіночаньня заходняэўрапэйскіх дзяржаваў у іхных абаронных мерапрыемствах увайшло напасьледак у канчальную фазу практычнае рэалізацыі і ўкаранавалася не абы якім пасьпехам. Першым актам у працэсе гэтага задзіночаньня была, як ведама, адбытая ў канцы верасьня і на пачатку кастрычніка Лёнданская канфэрэнцыя дзевяцёх дзяржаваў: сямёх заходняэўрапэйскіх — Вялікабрытаніі, Францыі, Заходняй Нямеччыны, Італіі, Бэльгіі, Галяндыі й Люксэмбургу ды дзьвёх заакіянскіх — Задзіночаных Штатаў Амэрыкі і Канады. Але Лёнданская канфэрэнцыя палажыла толькі тэарэтычныя асновы для справы задзіночаньня: яна дасягнула прынцыповых пагадненьняў аб наданьні Заходняй Нямеччыне поўнага сувэрэнітэту і аб спыненьні яе акупацыі трымя заходнімі дзяржавамі, разбудове ейных збройных сілаў і прыняцьці да пашыранага Бруксэльскага пакту і ў склад абароннага Атлянтычнага пакту. Канкрэтныя і дэтальныя пастановы дзеля практычнае й канкрэтнае рэалізацыі Лёнданскіх пагадненьняў мелі быць канчальна апрацаваныя, узгодненыя і падпісаныя на сэрыі Парыскіх канфэрэнцыяў, тэрмін якіх быў вызначаны на другую палавіну кастрычніка.

У палітычных колах Захаду было шмат засьцярогаў і сумляваньняў, ці Парыскія канфэрэнцыі змогуць перамагчы ўсе тыя цяжкасьці, што стаялі на перашкодзе эўрапэйскага задзіночаньня. Найвялікшай і, здавалася-б, непераможнай такой перашкодай былі неразьвязаныя дагэтуль француска-нямецкія спрэчкі і непаразуменьні ў справе вугальнага басэйну Саары. Таму з тым большым напружаньнем і неспакоем чакаў Захад на вынікі Парыскіх нарадаў.

Вынікі гэтыя перайшлі ўсе спадзяваньні навет найбольшых аптымістых. На працягу ўсяго пяцёх дзён, ад 19 да 23 кастрычніка, закончылі сваю працу аж чатыры адначасныя канфэрэнцыі: двух, чатырох, дзевяцёх і чатырнаццацёх, былі прынятыя й падпісаныя аж чатыры міжнародныя дагаворы, якія маюць вялізарнае палітычнае, мілітарнае і гістарычнае значэньне. Гэтым была падважаная й захістаная легенда, што дэмакратычныя дзяржавы ня здольныя, як дзяржавы таталітарныя, дзеіць шыбка і станоўча навет у найбольш сур'ёзныя мамэнты.

Гэтыя чатыры Парыскія дагаворы наступныя:

1. Францыя й Заходняя Нямеччына дасягнулі шляхам узаемнага кампрамісу поўнага паразуменьня ў справе саарскага басэйну, якое было найважнейшай перадумовай усіх іншых пагадненьняў; ад яго залежыла, ці да заходняэўрапэйскага задзіночаньня дойдзе ці не. Таму над гэтым пытаньнем варта шырэй спыніцца.

Акруга Саары зьяўляецца маленькай тэрыторыяй, паложанай між Нямеччынай, Францыяй і Люксэмбургам, якая абыймае ўсяго 2.559 кв. клм. і 951.000 насельніцтва, у тым аж 95% Немцаў. Саара ўжо даўно была аб'ектам канфліктаў між Францыяй і Нямеччынай. Пасьля першай сусьветнай вайны, у выніку пастановаў Вэрсальскага трактату, Саара была аддзеленая ад Нямеччыны на 15 год і перададзеная пад мандат Лігі Нацыяў. У 1935 годзе насельніцтва шляхам плебісцыту мела вырашыць свой далейшы лёс. У гэтым плебісцыце 90,5% насельніцтва выказалася за прылучэньнем Саары да Нямеччыны.

У выніку другой сусьветнай вайны Французы ўзноў дабіліся аддзяленьня Саары ад Нямеччыны і пертварэньня яе ў г. зв. «аўтаномную краіну». Але Саара асталася ў гаспадарскай і мытнай вуніі з Францыяй. Між Францыяй і Заходняй Нямеччынай быў заключаны дагавор, што аб канчальным лёсе Саары пастановіць будучы мірны дагавор зь Нямеччынай. Пры гэтым варта аддцеміць, што нямецкае насельніцтва Саары зусім не жадае задзіночаньня зь Нямеччынай, бачучы для сябе лепшыя гаспадарскія выгады ў эўрапэізацыі гэтае краіны. Істота француска-нямецкіх спрэчак за Саару палягае ў францускім пляне «раўнавагі сілаў». Справа ў тым, што Саара зьяўляецца вельмі важнай з эканамічнага гледзішча тэрыторыяй, на якой дабываецца вялікая колькасьць вугля й зялезнае руды. Калі-б Саара сталася нямецкай, дык, пры наяўнасьці другога і яшчэ багацейшага вугальнага басэйну Руры, Нямеччына сталася-б бесканкурэнцыйнай прамысловай магутнасьцю, а эканамічны патэнцыял Францыі быў-бы моцна падважаны.

Пагадненьне між др. Адэнаўэрам і Мэндэз-Франсам было дасягнутае ў наступнай форме: Саара атрымлівае собскі аўтаномны статут у рамах створанай цяпер Заходняэўрапэйскай Вуніі. Вярхоўную наглядную ўладу будзе выконваць Высокі эўрапэйскі камісар, якім, аднак, ня можа быць ані Француз, ані Немец, ані жыхар Саары. Саара захоўвае і надалей гаспадарскую і мытную вунію з Францыяй. Аб канчальным лёсе краіны вырашыць будучы мірны дагавор зь Нямеччынай. Так як гэты дагавор — у сувязі з нэгатыўным становішчам Савецкага Саюзу — невядома калі наступіць і наагул ці калі-небудзь наступіць, трэба ўважаць, што цяперашняя разьвязка саарскай праблемы будзе ў сіле на працягу доўгага часу. У Саары будуць легалізаваныя ўсе нямецкія палітычныя партыі, што дзеяць на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны, з тым аднак, што яны ня маюць права да заключэньня мірнага дагавору дзеіць і агітаваць за прылучэньнем гэтае краіны да Нямеччыны. Значыцца, Заходняя Нямеччына згадзілася дэфінітыўна на аддзяленьне Саары ад Нямеччыны, што, аднак, не абазначае, што гэтая краіна будзе канчальна прылучаная да Францыі. Такім чынам маем тут выпадак запраўднай эўрапэізацыі гэтага краю.

2. Француска-нямецкае пагадненьне ў справе Саары зрабіла магчымымі наступныя дагаворы ў Парыжы. Другім з чаргі быў дагавор між ЗША, Вялікабрытаніяй, Францыяй і Заходняй Нямеччынай у справе спыненьня акупацыі ейнае тэрыторыі і прывярненьня ёй поўнага сувэрэнітэту. Галоўныя пастановы гэтага дагавору гавораць: **Нямецкая Саюзная Рэспубліка атрымлівае поўны вонкавы і нутраны сувэрэнітэт. Акупацыйны статут будзе адкліканы, Высокія камісіі будуць разьвязаныя. Тры заходнія дзяржавы захоўваюць за сабой толькі свае дасюлешнія правы ў справе Бэрліну і справе агульнанямецкіх пытаньняў уключна з пытаньнямі задзіночаньня Нямеччыны і заключэньня зь ёй мірнага дагавору.**

3. Дагавор дзевяцёх дзяржаваў, якія будуць прыймаць удзел у новай эўрапэйскай сыстэме абароны (Вялікабрытаніі, Францыі, Заходняй Нямеччыны, Італіі, Бэльгіі, Галяндыі і Люксэмбургу), або яе гарантаваць (ЗША і Канада). Гэты дагавор прадбачыць пашырэньне заключанага 17 сакавіка 1948 году між Вялікабрытаніяй, Францыяй, Бэльгіяй, Галяндыяй і Люксэмбургам Бруксэльскага пакту аб гаспадарскім, сацыяльным і культурным супрацоўніцтве і калектыўнай абароне, і на Нямеччыну і Італію. Гэтак пашыраны Бруксэльскі пакт атрымаў цяпер назву **Заходняэўрапэйскай Вуніі,** якая практычна заменіць ранейшы плян Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці. Адначасна было дасягнутае пагадненьне, што нямецкі вайсковы кантынгент у Заходняэўрапэйскай Вуніі будзе мець

**(Заканчэньне на 2-ай балоне)**

# Беластоцкая трагікамэдыя

**(з радыёвай хвалі «Вызваленьня»)**

Ад 28-га да 30-га кастрычніка 1939-га году ў Беластоку адбываўся гэтак званы «Народны Сход Заходняй Беларусі», які меў вырашыць лёс гэтай краіны.

Шахрайскім спосабам было нібы выбрана 929 дэпутатаў, а на самыя выбары было сагнана аж 96,7 працэнтаў усіх выбаршчыкаў Заходняй Беларусі. Па што? Па тое, каб гэтых 929 дэпутатаў ад імя ўсіх жыхароў Заходняй Беларусі пацьвердзілі плян крамлёўскай дыктатуры аб закабаленьні Заходняй Беларусі савецкаму рэжыму, каб пад націскам НКВД самі на сябе налажылі путы камуністычнай няволі і каб за такое ашчасьліўленьне выказалі йшчэ падзяку савецкаму ўраду.

Гэтая трагікамэдыя была разыграна йшчэ й па тое, каб ашукаць ня толькі насельніцтва Заходняй Беларусі й Савецкага Саюзу, але і ўвесь вольны сьвет, якому трэба было прадставіць, як Беларусы з Заходняй Беларусі жыўцом лятуць у шчасьлівае савецкае жыцьцё.

Праграма Народнага Сходу ў Беластоку й спосаб правядзеньня яе гавораць самі за сябе. Народны Сход меў вырашыць:

1. аб дзяржаўнаў уладзе, 2. аб уваходзе Заходняй Беларусі ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, 3. аб зямлі, 4. аб нацыяналізацыі банкаў і буйнай прамысловасьці.

Першае пытаньне — гэта-ж пытаньне найвялікшай вагі! Каб устанавіць дзяржаўную ўладу ў краіне й разгледзіць якую, вольныя соймы ці ўстаноўчыя сходы распрацоўваюць і дыскутуюць гэтую праблему цэлымі месяцамі. Тут гэта было зусім не патрэбна. Выступіў адзін дакладчык, пагаварыў крыху, а затым запрапанаваў устанавіць гатовую савецкую ўладу. Прапанова была прынята аднагалосна выкрыкам «хай жыве!» — бязь ніякай дыскусіі ці разважаньняў, без фармальнага галасаваньня. Крычаць за савецкую ўладу мусіў кажны дэпутат, баючыся, каб не адстаць ад рэшты й ня быць залічаным да няшчырых прыхільнікаў новых паноў. Такімжа спосабам была праведзена й рэшта пунктаў парадку дня. За тры дні — ад 28-га да 30-га кастрычніка — гэтак званы «Народны Сход» у Беластоку закончыў усю сваю працу, навет дэлегацыю да бацькі Сталіна пасьпеў выбраць. Адным словам, усё шыта-крыта, і гладка, і хутка — як маланкай спаліць! Новая савецкая тэхніка, новая камуністычная дэмакратыя й стаханаўшчына — ну, дык і зразумела чаму так проста й хутка быў вырашаны лёс Заходняй Беларусі.

Але між іншым вызваленьне Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны спад панскай Польшчы й пампознае прылучэньне іх да родных рэспублік адбылося ня дзеля дбаласьці савецкага ўраду аб шчасьце паняволеных братоў, як цьвердзіць савецкая прапаганда, а крыху зь іншых прычын. Гаворыць аб гэтым сам сакратар кампартыі Беларусі таварыш Гарбуноў у сваёй кніжцы «Уз'еднаньне беларускага народа ў адзінай савецкай сацыялістычнай дзяржаве»:

«. . . першая задача савецкага ўраду заключалася ў тым, каб стварыць «Усходні» фронт супроць гітлераўскай агрэсіі, пабудаваць лінію абароны ля заходніх граніц беларускіх і ўкраінскіх зямель і арганізаваць такім чынам бар'ер супроць бесьперашкоднага прасоўваньня нямецкіх войск на Ўсход. Для гэтага патрэбна было задзіночыць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Ўкраіну, захопленыя панскай Польшчай у 1920 годзе, з Савецкай Беларусьсю і з Савецкай Украінай і высунуць сюды савецкія войскі».

Як бачым, савецкі ўрад дбаў перадусім за сябе, баяўся блізкасьці Немцаў, а таму сам стараўся захапіць як найбольш тэрыторыяў. Тут вось шыла зь мяшка і вылезла. Яго трэба было чымсь прыкрыць, замаскаваць. Таму савецкая прапаганда й рычэла аб сваёй раптоўнай любові да заходніх братоў Беларусаў і абавязку вызваленьня іх, па тое-ж была патрэбна й беластоцкая трагікамэдыя. У бальшавіцкую шчырасьць ніхто, хіба, ня верыў, бо не забыліся йшчэ, зь якім легкім сэрцам савецкі ўрад у 1921-ым годзе разрэзаў жывое цела Беларусі й аддаў палавіну яе Польшчы.

Усе мы помнім добра гэтую трагэдыю вызваленьня. Беларусы з Савецкай Беларусі з выбухам вайны ў 1939-ым годзе жылі прагнай надзеяй на запраўднае вызваленьне з камуністычнай дыктатуры. Беларусы з Заходняй Беларусі цешыліся з распаду панскай Польшчы й марылі аб праўдзівым вольным жыцьці ў задзіночаньні з сваімі братамі з Усходу. Але круты лёс перасек нашы мары й надзеі. Перанёсшы цярпеньні й руіну вайны, зноў трапілі мы ўсе разам ужо ў няволю камуністычнай дыктатуры. Беластоцкая трагікамэдыя сталася сымбалем няшчасьцяў усяго нашага народу. Таму не сьвяткаваць нам гэту гадавіну, а праклінаць яе трэба разам зь яе рэжысэрамі.

Аднак, праклён гэта ня выхад. Выхад мы можам знайсьці толькі ў працы над вызваленьнем з савецкай турмы народаў і ўтварэньнем сапраўды вольнага й незалежнага дэмакратычнага ладу на сваёй Бацькаўшчыне. Па нашым баку стаіць сяньня ўвесь вольны сьвет, які знае ўжо добра аб нашым цяжкім лёсе й цярпеньнях і гатоў дапамагчы нам у нашай працы й змаганьні. Вызваленьне наша ляжыць у нас саміх і ў вольным сьвеце, што задзіночваецца, мацуецца сяньня супраць камуністычнай агрэсіі й працягвае нам руку.

**В. Жук**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ».**

# Беларусь і Украіна у арганізацыі Аб'еднаных Нацыяу

У гэтым тыдні мінае дзевяць год з таго часу, калі хартыя Аб'еднаных Нацыяў увайшла ў сілу, а сама Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў сталася рэальнай.

Пры гэтай нагодзе мы маглі-б сказаць вельмі шмат адносна вялікіх мэтаў і прынцыпаў гэтай Арганізацыі, як і адносна памеру рэалізацыі іх. Аднак сяньня мы затрымаемся толькі над адным мамэнтам, а менавіта: паводле Хартыі, прыняцьце Беларускай і Ўкраінскай ССР у Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў аснавана «на прынцыпе роўнасьці і сувэрэннасьці ўсіх сяброў гэтай Арганізацыі».

**Фармальна** Беларуская і Ўкраінская ССР на працягу доўгага часу мелі сувэрэннасьць у рамках Савецкага Саюзу. Паводле сталінскай канстытуцыі, гэтая сувэрэннасьць уключае такія правы, як «незалежнае выконываньне дзяржаўнай улады», «права дабравольнага выхаду са складу Савецкага Саюзу», «права на асобныя рэспубліканскія вайсковыя адзінкі», «права на беспасрэдныя дачыненьні зь іншымі краінамі, на падпісаньне ўмоваў зь імі й на абмен дыплёматычнымі і консульскімі прадстаўнікамі». Аднак ніводнае з тых правоў у практыцы ня існуе. У 1945 годзе, напрыклад, украінскі міністар замежных спраў абвесьціў 400 журналістам у Сан-Франциско, што ўкраінскі ўрад гатоў у кожную хвіліну абмяняцца дыплёматычнымі прадстаўнікамі з кожнай краінай, якая гэтага зажадае. Аднак ангельская прапазыцыя аб тым, каб абмяняцца консульскімі прадстаўнікамі паміж Вялікабрытаніяй і Ўкраінскай ССР, была адкінута.

Такім чынам разхваленая сувэрэннасьць Беларускай і Ўкраінскай ССР набылі такі самы зьмест у жыцьці, як іншыя цьверджаньні савецкай канстытуцыі, як напрыклад: «уся ўлада належыць да працоўных і сялян», (у той час, калі яна ў сапраўднасьці належыць да савецкіх дыктатараў). Або цьверджаньне аб тым, што савецкі грамадзянін паводле савецкай канстытуцыі атрымлівае заплату па прынцыпе: ад кожнага — згодна зь яго здольнасьцямі, кожнаму — згодна зь яго працай, у той час, калі цяжкая праца грамадзянаў Савецкага Саюзу ня прыносіць ім нічога, бо іхні жыцьцёвы стандарт значна ніжэйшы за стандарт першай лепшай індустрыялізаванай краіны вольнага сьвету. Апрача таго, працоўныя пазбаўлены права на забастоўкі, дзеля палепшаньня свайго палажэньня.

Але гэтая, пустая па зьместу сувэрэннасьць Беларускай і Ўкраінскай ССР набыла вялізарнага значэньня з мамэнтам прыняцьця гэтых Рэспублік у Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў. Гэты факт зьвярнуў увагу сьвету на нацыянальнае існаваньне Беларускага і Ўкраінскага народаў. Апрача таго, абодва гэтыя народы фармальна сталі сувэрэннымі дзяржавамі. Нажаль, аднак, гэтая новая сувэрэннасьць беларускага і ўкраінскага народаў пазбаўлена сапраўднага зьместу на міжнароднай арэне, таксама як і ў межах Савецкага Саюзу. Ці-ж бачылі мы хоць адзін прыклад, каб за мінулых дзевяць год беларускі і ўкраінскі прадстаўнікі галасавалі незалежна ад дэлегацыі Савецкага Саюзу? Ніводнага. Яны старанна выконваюць тое, што ім загадваюць іх паны з савецкага цэнтру. Апрача таго, іхняя роля палягала і на тым, каб рабіць толькі тыя тактычныя рухі, якіх жадала ад іх савецкая дэлегацыя, калі сама хацела заставацца ў цяні.

Былы амэрыканскі дзяржаўны сакратар Эдвард Штэтыніус так пісаў у сваіх мэмуарах аб Ялтанскай Канфэрэнцыі 1945-га году: «Учора ўвечары прэзыдэнт Рузвэльт сказаў мне ў Ялце, што Сталін уважае сваё становішча на Ўкраіне вельмі цяжкім і няпэўным. Сталін заявіў, што пытаньне прыняцьця Ўкраіны ў Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў было вельмі важным для савецкага адзінства». Інакш кажучы, Сталін хацеў надаць беларускаму і ўкраінскаму народам форму сувэрэннасьці на міжнародным грунце дзеля таго, каб здабыць іхную ляяльнасьць, дзеля выкананьня свайго пазьнейшага пляну — паняволеньня гэтых народаў. Рэч зразумелая, што адначасна з гэтым ён імкнуўся атрымаць больш галасоў у Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў — тры, замест аднаго.

Цікава, чаму савецкія дыктатары прыкладаюць так шмат увагі да формаў, якія ў сапраўднасьці ня маюць зьместу? Чаму яны намагаюцца стварыць уражаньне, што саюзныя рэспублікі зьяўляюцца нібы сувэрэннымі дзяржавамі, у той час, як яны ня маюць ніякіх правоў, што ўваходзяць у паняцьце сапраўднай сувэрэннай дзяржавы? Чаму пры дапамозе сваёй пустой па зьместу Канстытуцыі яны намагаюцца давесьці, што іхні рэжым зьяўляецца дэмакратычным, у той час, як іхняя зялезная дыктатура супярэчыць паняцьцю дэмакратычнай свабоды?

Усё гэта дзеля таго, што савецкая прапаганда ня мае чаго сказаць на карысьць сваёй дыктатарскай сыстэмы кіраваньня дзяржавай, а таму яна мусіць прадстаўляць свой рэжым такім, якім ён ня ёсьць у сапраўднасьці. Савецкія дыктатары ў сваім засьляпеньні спадзяюцца, што людзі паверацы ў тое, што яны **гавораць,** а ня ў тое, што яны **робяць.**

Усе мы добра ведаем, што Саветы ніколі ня зробяць таго, што абяцаюць.

36 год горкага дасьветчаньня кажа аб тым, што ёсьць толькі адзін шлях для здабыцьця паабяцаных нам правоў і тэй свабоды, што існуе ў дэмакратычным сьвеце. Шлях гэты — ліквідацыя камуністычнага рэжыму і замена яго на вольны ўрад, абраны самім народам.

# Моцны фундамант задзіночаньня

(Заканчэньне зь 1-ай балоны)

тую-ж самую сілу, што і ў плянаванай эўрапэйскай арміі: дванаццаць дывізіяў, тактычнае лётніцтва ў сіле 1326 самалётаў, морскія збройныя сілы з караблямі да 3.000 тонаў водазьмяшчэньня і падводнымі лодкамі да 350 тонаў. Заходняя Нямеччына пры гэтым забавязалася не прадукаваць атамнага, хімічнага і бактэрыялягічнага аружжа.

4. Дагавор міністраў замежных справаў 14-ёх дзяржаваў аб прыняцьці Заходняй Нямеччыны ў склад збройных сілаў Атлянтычнага пакту. Такім чынам Атлянтычны пакт будзе цяпер складацца з 15-ёх сяброў, а ягоная абаронная сіла, дзякуючы ўключэньню заходнянямецкіх дывізіяў, выдатна павялічыцца.

Праўда, гэта яшчэ толькі другі акт у працэсе заходняэўрапэйскага задзіночаньня і разбудовы абароннай сыстэмы Захаду. За ім мусіць яшчэ наступіць акт трэйці і апошні. Усе гэтыя дагаворы мусяць яшчэ быць ратыфікаваныя парлямантамі ўсіх зацікаўленых дзяржаваў. I тут бясспрэчна будуць яшчэ некаторыя, можа й паважныя цяжкасьці, асабліва ў Францыі і Заходняй Нямеччыне, цяжкасьці дваякага характару: актуальны ў Францыі, а так сама сярод нямецкіх сацыял-дэмакратаў пагляд, што Парыскія пастановы поўнасьцю зробяць немагчымым паразуменьне з Савецкім Саюзам, у якое многія яшчэ вераць. Нямецкія сацыялістыя высоўваюць яшчэ й той аргумэнт супраць ратыфікацыі Парыскіх пастановаў, што яны канчальна пахаваюць надзею на задзіночаньне Нямеччыны мірным шляхам, у якое многія Немцы вераць таксама. Іншая перашкода для ратыфікацыі Парыскіх дагавораў бонскім парлямантам вяжыцца з праблемай Саары. Ужо сяньня публічная апінія Заходняй Нямеччыны, пры гэтым ня толькі ў радох сацыял-дэмакратаў, але і ў частцы ўрадавай кааліцыі, станоўча выступае супраць згоды Адэнаўэра на аддзяленьне Саары ад Нямеччыны. Ня гледзячы на ўсё гэта, у палітычных колах Захаду пераважае цьвёрдае перакананьне, што Парыскія дагаворы будуць усё-ж такі ратыфікаваныя і то не пазьней, як да сакавіка 1955 году.

Гістарычнае значэньне Парыскіх пастановаў зводзіцца да чатырох наступных пунктаў:

**1. Зьвязаньне Вялікабрытаніі з эўрапэйскім кантынэнтам.** Як ведама, Вялікабрытанія на працягу цэлых стагодзьдзяў пасьлядоўна трымалася палітыкі ізаляцыі ад рэшты Эўропы ,ніколі ня зьвязвалася зь ёй дзеючымі ў часе міру вайсковымі саюзамі і ня брала на сябе ніякіх забавязаньняў у дачыненьні да эўрапэйскага кантынэнту. Цяпер-жа Вялікабрытанія ўвайшла ў склад Заходняэўрапэйскае Вуніі, згадзілася трымаць на эўрапэйскім кантынэньце свае збройныя сілы і дала Францыі гарантыі перад эвэнтуальнай загрозай адроджанага нямецкага мілітарызму. Гэты зваротны і сьмелы крок Вялікабрытаніі быў аднэй з найважнейшых перадумоваў дасягненьня эўрапэйскага задзіночаньня.

**2. Дасягненьне францускa-нямецкага паразуменьня.** Францыя, якая на працягу апошніх 80 год тры разы была аб'ектам нямецкай інвазіі і зусім абаснавана адчувала нямецкую загрозу і ў будучыні, цяпер, атрымаўшы гарантыі Захаду і згоду Нямеччыны на аддзяленьне ад яе саарскага басэйну, увайшла ў пэрыяд цеснага супрацоўніцтва зь Нямеччынай. А ўрэгуляваньне францускa-нямецкіх дачыненьняў і разьвязаньне пытаньня Саары было, як ведама, другой найважнейшай перадумовай задзіночаньня Заходняй Эўропы.

**3. Стварэньне заходняэўрапэйскай абароннай сыстэмы.** Пасьляваенныя гады шуканьня формы заходняэўрапэйскай абароннай сыстэмы і тры апошнія гады бясплодных намаганьняў стварэньня Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці пасьпяхова напасьледак завяршыліся паўстаньнем Заходняэўрапэйскай Вуніі з удзелам Вялікабрытаніі з аднаго боку і Заходняй Нямеччыны — з другога. Эўропа, а тым самым і ўвесь Захад, знайшоўшы напасьледак формулу разьвязаньня гэтае важнае задачы, уваходзіць у пэрыяд згоднага супрацоўніцтва і пасьлядоўнага павялічэньня сваей магутнасьці ў вабароне перад загрозай савецкай агрэсіі.

**4. Перамога ідэі сувэрэннасьці.** Эўрапэйская Абаронная Супольнасьць, энэргічна фарсаваная асабліва Амэрыкай, была задуманая, як панаддзяржаўная і панаднацыянальная сыстэма, у якой усе дзяржавы-ўдзельнікі мелі дабравольна зрачыся часткі свайго сувэрэнітэту на карысьць супольнае справы. Такім чынам Эўрапэйская Абаронная Супольнасьць мела быць адным з важных крокаў у кірунку заходняэўрапэйскае фэдэрацыйнае канцэпцыі. Заходняэўрапэйская Вунія, хаця таксама вымагае некатарага абмежаваньня сувэрэнных правоў ейных удзельнікаў, зьяўляецца аднак сыстэмай міждзяржаўнай. Ейныя сябры астаюцца і надалей поўнасьцю незалежнымі дзяржавамі. Гэта зьяўляецца найлепшым довадам, што ідэя поўнай дзяржаўнай незалежнасьці яшчэ ня перастала быць вырашальным фактарам у фармаваньні нутранага жыцьця й вонкавых дачыненьняў народаў.

Усё вышэй сказанае паказвае, што распачатае цяпер эўрапэйскае задзіночаньне і разбудова абароннае сыстэмы Заходняе Эўропы абапіраецца на моцных і цьвёрдых фундамэнтах. У гэтым зарука эфэктоўнасьці і трывалкасьці новых мерапрыемстваў.

**Язэп Каранеўскі**



# Да беларуска-летувіскіх дачыненьняў

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

**425 ГОД «СТАТУТУ ЛІТОЎСКАМУ»**

Каб выясьніць, як хто разумее спадчыну гаспадарстваvасьці Вял. Кн. Літоўскага, Альмус папытаўся, чые заслугі й чыю праўную сыстэму выказвае Статут Літоўскі, катораму сёлета спаўняецца 425 год. Др. Я. Станкевіч меў ясны адказ: «Статуты Літоўскія (1529, 1566 і 1588 г. г.) ёсьць крывіцкімі кодэксамі, бо ў іх адбіваецца крывіцкае звычаёвае права й пісаныя правы папярэдніх княстваў (Полацкага, Віцебскага, Смаленксага). Дзеля таго Статуты Літоўскія можна было-б уважаць за адно ізь сьветчаньняў крывіцкае гаспадарстваvасьці Вялікага Княства Літоўскага.

Др. Х. пра Статуты: «Які народ быў аўтарам Статуту Літоўскага найлепей і найаўтарытатней сьветча сам рэдактар і выдаўца трэйцяга Статуту, канцлер Вял. Кн. Літоўскага Леў Сапега. У прадмове да Статуту ён кажа: «Калі іншым народам стыд правоў сваіх ня знаці, дык пагатове нам, бо ня ў чужой мове маем правы, але ў сваёй собскай». У другім месцы Сапега кажа: «Новы Статут у шмат мясцох папраўлены выбранымі нашым народам мудрымі, знаючымі права людзмі» (гл. И. Лаппо «Литовский Статут 1588 г. т. II, Каўнас 1938, бач. 7). Калі старая мова беларуская Статуту Літоўскага была «собская» і Сапезе і ўсяму народу, ад імені каторага Сапега гаворыць, калі гэтыя «выбраныя людзі» былі з «нашага», гаворачага пабеларуску, народу — дык застаецца адзіны лёгічны вывад, што **прашчуры беларускага народу ўважалі Статут Літоўскі сваім творам**. Таго-ж пагляду дзержацца й сучасныя Беларусы».

Летувіскія гісторыкі ў гэтым пытаньні дзержацца іншага пагляду, адзін ізь іх гэтак адказаў: «Статут Літоўскі немагчыма ўважаць за беларускі твор, хоцьбы дзеля таго, што ён мае ясна заходні характар — рымскія й кананічныя прынцыпы. Калі-б ён быў беларускі (яны ў тыя часы яшчэ былі праваслаўныя), асноваю Статуту было-б г. зв. славянскае, створанае ў Кіеўскай дзяржаве, права. Коратка й ясна...

**СУЧАСНЫЯ ЎЗАЕМНЫЯ ДАЧЫНЕНЬНІ ПРЫБАЛТЫЙЦАЎ І БЕЛАРУСОЎ**

Латыш (рэдактар «Лятвіі» ў Нью Ёрку А. Зьверыньш) уважае іх за дзіўныя. «Гета шкода. Павінны шукаць супрацоўніцтва. Палажэньне Беларусаў у Маскоўскай імпэрыі падобнае да нашага. Мы павінны паддзержываць іх маральна ў змаганьні супраць Масквы і ўмацняць у іх жаданьне незалежнасьці й свабоды, прыпамінаючы ім вялікасьць летувіска-беларускай дзяржавы і этнічную супольнасьць Беларусаў - Летувісаў-Латышоў».

**Беларусы:** Др. Станкевіч: Цяперашнія дачыненьні паміж Крывічамі, з аднаго, і Латышамі й Эстонцамі, з другога боку, прыязныя, але мала актыўныя. Дачыненьні паміж Крывічамі й Летувісамі можна назваць смутным не паразуменьнем, прычыненым варожымі да Крывічоў выступленьнямі часьці летувіскіх палітыкаў. Крывічы ня маюць ненавісьці да Летувісаў, блізу ўсе чуюць вялікую да іх сымпатыю і толькі болей або меней рэагуюць на варожыя выступленьні некаторых Летувісаў.

Др. Х: «Беларуска-прыбалтыцкія дачыненьні (валей назваць іх беларуска-летувіскімі) сьцюдзёныя».

**Нашая (летувіская) тэза:** «Даводзіцца назваць вашыя дачыненьні непаразуменьнем, бо Прыбалтыйцы не дацэньваюць у будучыні ролі Беларусаў, каторую аніяк нельга аддаліць, а Беларусы не разьбіраюцца ў важнасьці Прыбалтыкі, быццам яны змогуць неяк пераскочыць яе і змогуць жыць незалежна ад будучых дачыненьняў з прыбалтыцкімі дзяржавамі, што ляжаць і на выхадзе Беларусі ў сьвет і валодаюць гэтым выхадам. Прыбалтыцы Беларусь важнейшая з гледзішча палітычнага, Прыбалтыка Беларусі перш-наперш з гледзішча гаспадарскага.

**ШТО ДАЛО-Б СУПРАЦОЎНІЦТВА?**

**Беларусы:** Др. Станкевіч: «Я думаю, што будучая доля нашых краёў без узаемных цесных сувязяў была-б няпэўная й нятрывалкая. Каб незалежнасьць нашых будучых дзяржаваў мела трывалкі характар, мы мусім стварыць такія ўмовы, каб мы маглі самі бараніцца, а не здавацца на ласку суседзяў.» Дзеля таго ён згаджаецца, што «трэба было-б стварыць камітэт з прыватных грамадзян; трэба таксама імкнуцца да ўрадавага паразуменьня паміж нашымі палітыкамі на эміграцыі. Найляпей было-б, каб ініцыятыву такога паразуменьня паднялі нашыя мілыя суседзі Латышы й Эстонцы, бо яны маюць добрыя дачыненьні як да Крывічоў, так і Летувісаў».

Др. Х. «Без узаемнага зразуменьня й добрай волі нельга чакаць нічога добрага ніводнаму з нашых народаў. Вельмі пажаданы Беларуска-Балтыцкі Камітэт дзеля азнаямленьня й зьбліжэньня меў-бы вялікія, хоць і ня лёгкія заданьні. Афіцыяльнае паразуменьне беларуска-балтыцкіх палітыкаў на эміграцыі таксама магчымае. Няма да гэтага перашкодаў. Канечна патрэбнае супрацоўніцтва беларуска-летувіскіх людзей пяра» (зн. журналістых і пісьменьнікаў — зацемка перакладніка).

**Летувісы:** Выраўнаць дачыненьні было-б вельмі карысна. Адылі, цяжка, бо некаторая часьць Беларусаў хварэе на лішне вялікую падазронасьць і глядзіць на Летувісаў, як Летувісы-Віленцы глядзелі на Палякаў. **Блага што ніхто зь Летувісаў ня выказаўся шырэй і высіляюча** ў беларускім пытаньні. Найляпей было-б выдаць «белую» ці якую кнігу, выясьняючую праблемы гэтага раёну. Выкліканыя ёй дыскусіі павінны былі-б друкавацца ў спаважных газэтах або адумыслова разглядацца ў клюбах. Якія-б ня былі афіцыяльныя паразуменьні, ня можа ім быць за рана.

**ПРЫРОДНЫЯ ХАЎРУСЬНІКІ ГЭТАГА РАЁНУ**

**Беларускі пагляд:** Др. Станкевіч: Прыбалтыцкія дзяржавы, Суомія (Фінляндыя), Скандынавія.

Др. Х. «Балтыйцы дальшыя Ангельцам, але бліжэйшыя Беларусам-Украінцам».

**Эстонцу** П. А. Раньніту «цяжка прадставіць сабе вельмі прадуктыўнае супрацоўніцтва Эстоніі зь Беларусяй у культурнай галіне. Эстонія, што адлучае яе ад Летувы, належыць да фінска-скандынаўскага блёку. Я баюся, што, прыкладам, арганізаванае Эстонска-Беларускае таварыства дало-б малыя рэзультаты. Адзінае супрацоўніцтва ў будучыні паміж Эстоніяй і Беларусяй магчымае ў палітычна-эканамічнай галіне. Але ўва ўсіх гэтых пытаньнях рассудак павінны зрабіць **толькі самі балтыйскія й беларускі народы,** роля эміграцыі, як і ў усіх засталых справах, **абмежваецца да парадаў.**

**Латыш** А. Зьверыньш выказаўся толькі за прыбалтыцкую вунію бязь Беларусаў.

**Пагляд Летувісаў, што выказаліся:** «Прыбалтыцка - Беларуска - Ўкраінская Фэдэрацыя».

**ЦІ МАГЧЫМЫ БАЛТЫЦКА-БЕЛАРУСКІ ЗЬВЯЗ?**

Др. Станкевіч кажа, што «Балтыцка-Крывіцкі рэгіянальны зьвяз быў-бы карысны перш-наперш з гледзішча палітычнага й вайсковага. Дзеля таго, што менаваныя народы (зн. Балтыйцы й Беларусы) ня маюць імпэрыялістычных імкненьняў і ня было-б паміж імі змаганьня ды з кажнага гледзішча гэта народы пазытыўныя й творчыя, значаньне такога зьвязу колькі разоў перавышала-б ягонае значаньне зглядам колькасьці яго жыхароў і вялічыні яго тэрыторыі. Задзіночаныя ў зьвязе нашыя дзяржавы мелі-б трывалкі характар і маглі-б бараніць сваю незалежнасьць, а не здавацца на ласку суседзяў. Прыяў-бы такі зьвяз і эканамічнаму развою, бо, апрача ўсяго іншага, чым большая тэрыторыя, тым большая эканамічныя магчымасьці. У Расеі нашыя народы ня мелі-б добрых эканамічных магчымасьцяў, бо Расея ня была нашай дзяржавай, але мы былі ейнымі нявольнікамі (гэта ўзноў паўтарылася-б, калі-б мы былі ўзноў у Расеі або з Расеяй, што ўсё роўна). Думаю, што й культурнае супрацоўніцтва было-б карыснае ўсім. Карысна была-б з кажнага гледзішча. Гістарычнае дазнаньне паказвае, што супрацоўніцтва Крывічоў з Балтамі прыяла-б абедзьвюм старонам. Гэтае супрацоўніцтва ня шко-

(Заканчэньне на 3-яй балоне)

**Якуб Колас**

# Сымон Музыка

13)

**ПАЭМА**
**(Працяг)**

*
* *

Ажывіўся замак хмуры,
Бляск, сьвятло, гараць агні,
Зіхацяць там вокны, муры,
зьзяюць вежы ў вышыні.
Парк жыве, гарыць і дыша.
Як каралі на шнурох,
Скрозь дарожак зьзяе-пыша
I калышацца ў вагнёх
Срэбра лісьцяў на галінках
Старасьвецкіх ліп, дубоў.
То — маёўка-вечарынка,
То банкет — гульня паноў.
I спакойна, ціха, роўна
Блеск ліюць свой ліхтары
I сплятаюць так чароўна
Сьвятло-цені на кары
Комляў тоўстых, нярухомых,
На галінках, на сукох,
Бы застыў тут веснік громаў,
Блеск маланак на камлёх.
А ўгары над гэтым бляскам
Зьвісла ноч яшчэ цямней,
А з глыбінаў неба казкай,
Поўнай чараў, ціхай ласкі,
Пазіраў яшчэ ясьней
Гожы месячык няпоўны,
Чуць пачаты баханок,
I яму ноч з хмарак-воўны
Белы выткала вянок.
— Уміраць ім тут ня трэба:
Ім тут рай і ім тут неба, —
Думаў моўчкі дзед Даніла,
Збоку стаўшы ад паноў: —
Што ім той сьвет? ім тут міла,
А памруць, па іх-жа зноў
Будзе пышнае маленьне,
З пыхам гроб іх панясуць;
З раю сьветлага збавеньня,
Як і тут, нас адапхнуць. —
А паны сабе балююць,
П'юць заморскае віно —
Для іх робіцца яно, —
I ім лёкаі слугуюць,
Як тут водзіцца даўно.
Між адвечных жаралістых
I растрэсканых камлёў
Тоўстых клёнаў і дубоў,
Кругом стаўшых, бы маністы,
Стол даўжэразны, аж гнецца
Ад закусак дарагіх,
Там віно шуміць і льлецца,
Мова хмельная вядзецца,
Сьмех паненак маладых,
Разубраных, як у маі
Кветкі тыя на лугох,
Як вясной бярозкі ў гаі,
Як валошкі на палёх.
I якіх убораў толькі
На паненках ня было.
Анталяжыкі ў дзьве ролькі...
А іх белае чало
Авівалі кудры гожа —
Лён завітых валасоў,
А іх тонкіх галасоў
I музыка зграць ня зможа.
Завушніцы і пярсьцёнкі
Так і зьзяюць і гараць.
Як у восак, стан іх тонкі,
Вочы зорамі глядзяць.
Шчочкі тыя, ну — сунічкі...
Ях, дзяўчаткі-чараўнічкі,
Лепш на вас не пазіраць!
А прамовіць-засьпявае —
Пан шалее малады:
Чорт яго і бацьку знае,
Што зь ім робіцца тады!
То прыскочыць, то прыгнецца,
То рукою павядзе,
Плечы ўськіне, засьмяецца,
Як матыль над лямпай ўецца,
Як над краскай чмель гудзе.
— Гэй, панове, ўгурэн шклянкі!
Піем здрове свэй коханкі. —
Песьню пан якісь заводзіць,
Драбязіць, бы той казёл,
I вачамі ўсіх абводзіць,
Чаркай стукае аб стол.
— Віват, ксёнжа наш вяльможны! —
I ўстаюць ураз паны;
Момант — чаркі ўсе парожны,
Князя гушкаюць яны.
Тут музыкі — лозьнік гібкі —
Падымаюць, хто клярнэт,
Хто басэтлю, а хто скрыпкі,
Каб аздобіць той банкет.
Як утнулі-ж, як уцялі,
З дысканта, а хто з баса,
Аж, здаецца, задрыжалі
Лісьці, дзерава краса.
Кіраўнік на часьці рвецца,
Пан Галыга — адзін рух,
То да скрыпак ён памкнецца,
То заверціцца ўвакруг.
Ходзяць рукі, як пружыны,
Адбівае тахт нага,
Лоб зьбіраецца ў маршчыны,
I сам гнецца, як дуга.
— А дзе хлоп, што ладна грае?
Гэй, музыку завалаць! —
Падгуляўшы князь гукае: —
Ўраз хлапака мне падаць! —
Сьціхлі госьці і музыкі.
Зь іх застылай грамады
Працiскаецца на клікі
Наш музыка малады.
Вышаў ён і пакланіўся,
Кінуў погляд на паноў.
Эх, і дзе-ж ён апыніўся!
Пых такі яму й ня сьніўся,
Колькі блеску і агнёў!
— Ну, зайграй-жа нам, каханы! —
Князь крутнуў свой чорны вус
I на белы той абрус
Ставіць локаць падзіманы.
Граў Сымон ужо ня мала,
А чаго-ж яго рука
Так парыўна задрыжала
Пад узьлётамі смыка?
О, каб мог агнём пякучым
Ён ім душы апаліць,
Болем вострым, не гаючым
Думкі іх усе авіць!
Каб адчулі крыж няволі,
Заняпаласьць прасьцяка,
Зыркі сьвіст вятроў у полі
I лёс гэты бедака!
Ён зайграў, і струны горка
Адклікаліся, гулі.
Аддавала іх гаворка
Гневам, крыўдаю зямлі...
Скончыў граць ён — паны ў ладкі
Запляскалі, як адзін.
Мабыць панскія парадкі
Вымагаюць такі чын.
Вус у князя зварухнуўся.
— А скажы, каханы мой:
Што ты выказаць мануўся:
Думку, песьню ці настрой?
— Я скажу, вяльможны княжа. —
I пачаў Сымонка так:
«Хто пра гора тое скажа?
Дзень памрэ, і ночка зьляжа,
Чорны ўзьдзеўшы андарак.
А дуб будзе смуткаваці,
Бо няма яго дзіцяці,
Бо такая доля іх.
Уміраў дуб, верх быў голы,
Тоўсты комель яго — кволы,
Шум лістоў яго заціх,
I была на ім галінка,
Маладзенькая дзяцінка,
На галінцы — жалудок.
— Я, сыночку, уміраю,
Я ў табе надзеі маю:

# У паняволенай Беларусі

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

**РАНЕЙ 8 ГАДЗІН ПРАЦЫ, ПАСЬЛЯ «ЗВЫШУРОЧНАЯ РАБОТА» І НААПОШКУ ПАЧАТКОВАЯ АСЬВЕТА.**

(«Зьвязда» за 25. 9. 54. Гл. арт. «Стварыць умовы для вучобы маладых рабочых».)

«...Вопыт паказвае, што чым вышэй культурна-тэхнічны ўзровень рабочых, тым больш прадукцыйная іх праца.

«...Многія рабочыя за час вучобы павысілі прадукцыйнасьць працы да 180-200 працэнтаў.

«...Аднак многія гаспадарчыя кіраўнікі, партыйныя, прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі прадпрыемстваў упускаюць спад увагі пытаньні вучобы моладзі, ня цікавяцца павышэньнем адукацыі маладых рабочых. Так, напрыклад, кіраўніцтва фабрыкі імя Тэльмана да гэтага часу ня выдзеліла школе рабочай моладзі памешканьня. Больш 600 рабочых фабрыкі імя Кагановіча ня маюць сямігадовай адукацыі. Але гэта не хвалюе адміністрацыю фабрыкі. Тут выдзелена памяшканьне школе толькі для аднае 4-ае клясы.

«Некаторыя рабочыя трэсту „Аўтапрамбуд" ня маюць навет пачатковай адукацыі. Даведаўшыся аб гэтым, дырэкцыя 5-ай школы рабочай моладзі зьвярнулася да адміністрацыі трэсту з просьбай аказаць дапамогу ў камплектаваньні клясаў, даць памешканьне для заняткаў. Аднак у трэсьце не пайшлі насустрач школе.

«Сур'ёзным недахопам у рабоце вячэрніх школ рабочай моладзі зьяўляецца вялікі адсеў навучэнцаў. Найбольшы адсеў дапусьціла школа № 23 Сталінскага раёну, дзе асноўны кантынгент навучэнцаў — рабочыя падшыпнікавага заводу. З 245 навучэнцаў на працягу году пакінула школу 158 чалавек. У гэтым вялікая віна пэдагагічнага калектыву, а таксама адміністрацыі падшыпнікавага заводу. Дырэкцыя заводу, партыйная, прафсаюзная й камсамольская арганізацыі не стварылі ўмоў сваім рабочым для нармальнай вучобы. Многія кіраўнікі цэхаў тут ня толькі не дапамагаюць маладым рабочым сумяшчаць вучобу й работу, а, наадварот, затрымліваюць навучэнцаў на звышурочных работах і тым самым адрываюць іх ад заняткаў. Восем рабочых транспартавага цэху пачалі 1 верасьня 1953 году заняткі, а скончыў навучальны год толькі адзін зь іх. Моладзь гэтага цэху пакінула школу з-за таго, што часта затрымлівалася на звышурочных работах. Такія-ж факты маюць месца ў цэху чыгуначных падпішчыкаў, у АТК.

Такіх выпадкаў, калі кіраўнікі заводаў, фабрык, будоўляў ня ідуць насустрач рабочым, якія жадаюць вучыцца, яшчэ нямала.»

**ЧАРГОВЫ ЭТАП СТАРЫХ ШАБЛЁНАЎ**

З пачаткам кастрычніка ў сыстэме партыйнай камуністычнай асьветы пачаўся на Беларусі яшчэ адзін год прымусовага забіваньня галоваў марксыцка-ленінскай тэорыяй на так званых «добраахвотных прынцыпах навучаньня». Аб «дабраахвотнасьці» гэтай найлепш хіба ведаюць тыя, хто меў ці мае дачыненьні з савецкай уладай. Прынцып «хто ня з намі — той супраць нас» і візія «чорнага ворана» — аргумэнты даволі пераконваючыя, каб найсьмялейшага прымусіць да «дабраахвотнага» зубрэньня прапагандовае нуды. Але якімі-б слоўцамі ні адзявала прапаганда савецкае рэчаіснасьці, зьмест гэтае слоўнае адзежкі застаецца такі-ж сумны, як і нязьменны, і ён жыўцом вылазіць наверх, сьцягваючы ўсё пакрывала ілжы. Усё савецкае палітычнае навучаньне напамінае гэную банальную бясконцую частушку, што канчаецца словамі: «эта песня нудная — начинай сначала». Урэшце губляецца і пачатак, і канец, і наагул усякі цьвярозы глузд гэтае тарабаншчыны, у якой пачынаюць блытацца і самыя агітатары.

Недарма ЦК КПСС, у сваёй пастанове зь 19-га верасьня 1953 году, падкрэсьліў, што «у прапагандовай рабоце неабходна рашуча ліквідаваць начытніцтва, дагматычны падыход і весьці непрымірымую барацьбу супраць усякага роду скажэньняў і вульгарызацыі асобных палажэньняў марксізму-ленінізму».

Аднак, ня гледзячы на катэгарычнасьць тону партыйнае пастановы, палітычнае навучаньне кульгае й далей. Беларуская савецкая прэса йзноў падымае гвалт, што ў шмат якіх мясцох партыйныя заняткі пачаліся із спазьненьнем, што яны вядуцца ненармальна, што агітатары карыстаюцца мінулагоднымі канспэктамі або проста чытаюць на лекцыях газэты й часапісы, бо нічога іншага ня могуць сказаць сваім панурым слухачом.

Адным з найпэўнейшых спосабаў партыйнага навучаньня лічыцца сэмінар. Але, як даведваемся ізь «Зьвязды» за 1-га кастрычніка гэтага году, і гэтая прыхватка падводзіць: «Нельга мірыцца з тым, што ў радзе месцаў прапагандысцкія сэмінары праводзяцца па шаблону і не аказваюць дастатковай дапамогі ў вывучэньні актуальных пытаньняў эканомікі народнай гаспадаркі, унутранай і зьнешняй (sic!) палітыкі партыі, міжнароднага становішча, не садзейнічаюць павышэньню мэтадычнага майстэрства прапагандыстых. На сэмінарах усё яшчэ рэдка разгортваюцца дыскусіі, творчы абмен думкамі па найбольш важных тэарэтычных і мэтадычных пытаньнях. Як адзначалася на гарадзкім сходзе партыйнага актыву гор. Менску, шмат сур'ёзных недахопаў у рабоце сэмінараў было ў асобных раёнах гораду ў мінулым навучальным годзе. У радзе месцаў яны не арганізавана пачаліся й сёлета».

«Зьвязда» хваліцца, што ў гэтым годзе павялічылася колькасьць самастойна вывучаючых марксыцка-ленінскую тэорыю, аднак гэта ніяк не аблягчае настырлівае прымусовасьці. Нікуды не ўцякуць і «адзіналічнікі» ад пранырлівае партыйнае рукі: іх будуць нашпігоўваць кансультацыямі, прачышчаць эгзамінамі — і так аж да рвотаў.

**А. Будзіч**

# Запачаткаваны новы прыход БАПЦ

Каб шырэй разгарнуць беларускую нацыянальную працу, управа дружыны Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Сток-он-Трэнт (Ангельшчына) пастанавіла на чарговы гадавы свой сход запрасіць сьвятара БАПЦарквы а. Аляксандра. Хадзіла пра тое, каб супольна ўзьнесьці да Ўсемагутнага шчырую малітву за памыснасьць у працы і за Беларускі Народ.

Дзень сходу быў вызначаны на 10. 10. 1954 г. Перад Багаслужбаю сябры ўправы прадпрынялі асаблівую руплівасьць, каб сьцягнуць як найбольшы лік сваіх суродзічаў, пражываючых навет у далейшых ваколіцах. Дык усім было асабліва прыемна пабыць на сваей Багаслужбе і пачуць у нашай роднай мове глыбока рэлігійную й патрыятычную пропаведзь нашага сьвятара.

Пасьля малебену распачаліся нарады сходу. Заўважвалася асаблівае зацікаўленьне сходам прысутных на ім былых вайскавікоў, у якіх яшчэ ня згас запал змаганьня за Бацькаўшчыну. Зь іхных вуснаў вылятаюць словы пагарды й праклёну да тых Беларусаў, якія ў ранейшым змаганьні былі ў іхных радох, а цяпер, згубіўшы сваё беларускае аблічча, далучыліся да нашых чужынцаў. Шукаюцца шляхі, якімі іх ізноў можна было-б вярнуць на правільную дарогу. Далей разважаюцца справы, як-бы можна было часьцей арганізаваць тут Божую Службу. Айцец Аляксандар падчырквае неабходнасьць супрацоўніцтва камбатантаў з управаю БАПЦарквы, якая задзіночвае каля сябе ня толькі беларускія арганізацыі, але і ўсіх беларускіх праваслаўных вернікаў. Нававыбранай управе ЗБК дзеля зарганізаваньня свайго сталага прыходу даручаецца правесьці неабходную прыгатаваўчую працу ды зрабіць улік усіх праваслаўных беларускіх вернікаў гэтае акругі.

Запрошаны на сход старшыня галоўнай управы ЗБК сп. Курыла насьветліў арганізацыйнае жыцьцё беларускае эміграцыі ўва ўсіх краінах сьвету.

Падсумоўваючы агульнае ўражаньне, трэба сьцьвердзіць, што сход прынёс шмат карысьці для беларускага арганізацыйнага жыцьця ў гэтай мясцовасьці. З бадзёрым настроем прысутныя на заканчэньне адсьпявалі беларускі нацыянальны гымн ды разыйшліся з надзеяю, што хутка ўзноў спаткаюцца на беларускай Багаслужбе ў яшчэ большай колькасьці.

**Вэтэран**

### АБВЕСТКА

Я прыйшоў да ідэі прыняць дзіця (дзяўчынку) на поўнае ўтрыманьне і выхаваньне беларускага, расейскага ці ўкраінскага паходжаньня з ДП лягеру ў Нямеччыне, якое павінна быць здаровым і ў веку ад 2-ух да 4-ох гадоў з тае прычыны, што я маю дзьве дзяўчынкі ў веку 2 і 3 з плавінаю гады.

Мая жонка Галяндка, але вельмі чулая да нашага народу і дагледзіць такое дзіця, як сваё роднае. У гэтай справе прашу зьвяртацца на мой наступны адрас:

M. Kudrewicz, Prins Bernhardlaam 37,
Brummen, Holand.

# Варта

Каб мы маглі да сваіх пажаданьняў дачапіць кляўзулі зьдзейсьненьня, наша жыцьцё напэўна выглядала-бы іначай. Было-б яно можа нуднейшае, больш аднолькавае, але спакайнейшае. Напрыклад Андрэй Сьвіслацкі не хадзіў-бы ад «чароўнай галоўкі» да містара «Х» у пошуках білету ўступу на адкрыцьцё Гэнэральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, а сядзеў-бы ў якімсь Міры ці Нясьвіжы на пасадзе дырэктара гімназіі, або на менскім унівэрсытэце набіваў-бы бедным студэнтам галовы гістарычнай ліпай.

Але калі-ж ён ужо паломнічае па мадэрным будынку Задзіночаных Нацыяў, дык ці варта ставіць такое гамлетаўскае «to be or not to be»: «Варта ці ня варта?» Для нас, якія ў Саветах аставілі зубы і палову юнасьці, зразумелае абурэньне Сьвіслацкага. Цэлы вольны сьвет уважна прыслухоўваецца да штодзённых казуістычных попісаў Вышынскага, замест з гумарам капянуць яго ніжэй паясьніцы. Калі-б хадзіла аб пілу-Вышынскага пэрсанальна, напэўна шаноўны арэопаг Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў паклікаў-бы здаравеннага дзяцюка і загадаў-бы спусьціць Андрэя Януаравіча са сходаў. Але нялёгка адважыцца капянуць больш як 900-мільённую камуністычную імпэрыю. Захад так доўга варыў сабе піва, што цяпер мусіць яго і расьпіваць ды ня толькі ў форме развадзянелых прамоваў Вышынскага.

Памаему ўсё-ж будаваць палац Задзіночаных Нацыяў было варта. Хаця-б дзеля таго, каб заходняе грамадзтва магло пачуць прамову таварыша Саксіна. 21-га кастрычніка на паседжаньні камісіі для спраў уцекачоў савецкі прадстаўнік Саксін, выступаючы супраць прызнаньня фондаў на палітычных уцекачоў, даў вольнаму сьвету добрую параду: Усіх палітычных уцекачоў сілай рэпатрыяваць туды, адкуль яны ўцяклі. А як усяму сьвету ведама, 99,9% уцекачоў паходзіць з Савецкага Саюзу, дык адносна інтэнцыяў таварыша Саксіна ніхто ня меў сумніваў. Адрас для гэтай макабрычнай пасылкі быў зусім выразны. Саксін гатоў-бы навят перавезьці гэты багаж сваім коштам і транспартам аж на Калыму або на той сьвет.

Ён гаварыў гэта з ноншалянцкай мінай і спакойна, але вольны сьвет, слухаючы, здрыгнуўся. Бо, каб мы ўсе дзень і ноч паўтаралі нясьведамым людзям Захаду аб зьверствах чырвонай дыктатуры, нам-бы не паверылі так, як аднэй прамове савецкага дыплёматы. Гэта вестка зь першай рукі, а не якісь сэкэндгэнд...

Таму не згаджаюся з А. Сьвіслацкім, бо палац будаваць было варта.

(Тут паставім дужкі ды пяройдзем да дыгрэсыі. А. Сьвіслацкі ў сваім фэльетоне зь месца ўзяў завысокае «Ц». Штопраўда выцягнуў да канца, але мясцамі ўпадаў у фальшывую танацыю. Можна было-б ня перашкаджаць яму хварэць з прычыны «стольких прыгожых слоў», пушчаных на вецер. Можна таксама ня пекліцца за «армію дармаедаў-прадстаўнікоў 60-і народаў», якія меляць языкамі ў гэным палацы ЗН. Шкада толькі, што А. Сьвіслацкі ня даў добрай парады, што яны маюць рабіць іншае.

Але прыкрым скрыгатам гучаць словы аўтара, калі ён цьвердзіць: «Дык ці варта было тады траціць гэтулькі часу і сяродкаў дзеля пабудовы гэтак мадэрнага будынку **ў вадзінай краіне сьвету із запраўднай дэмакрацыяй ў З.Ш.А?»** Маем вялікую пашану да амэрыканскай дэмакрацыі, — бо ня можам ня мець — аднак мусім аўтара разчараваць і сьцьвердзіць, што існуюць і іншыя дэмакратычныя краіны. Выказваючыся-ж так аподыктычна, што толькі З.Ш.А. — «адзіная краіна з запраўднай дэмакрацыяй» А. Сьвіслацкі пераступіў верхнюю граніцу высокага «Ц» і сапсаваў усю арыю.

А гэтага рабіць было ня варта...)

**пс**

## ШУКАЮЦЬ

**Садоўскага Аляксандра,** які ў 1950 годзе выэміграваў у Аўстралію, шукае Міхал Корзін. Весткі слаць на адрас:
Michal Korzin, Rosenheim, DP-Siedlung, Deutschland.

*

**Бацькоў і брата** зь вёскі Чыжыкі Івацэвіцкай воласьці Косаўскага павету, якія ў 1945 годзе былі ў францускай зоне Нямеччыны, шукае Сіткевіч Кастусь. Весткі слаць на прадстаўніка газэты «Бацькаўшчына» ў Ангельшчыне.

*

**Цана за росшукі, як і за іншыя абвесткі — 10 фэн. за кажнае слова. Аплата згары.**

# На фонд беларускай кніжкі

**1954 г.**

**(Працяг)**

28. **Падпісны ліст № 9, зьбіральнік сп. В. Кендыш:** В. Кендыш — 5 амэр. даляраў, Ю. Старасельскі — 3, П. Яськевёч — 2. **Разам 10 даляраў.**

29. **Падпісны ліст № 10, зьбіральнік сп. Дунец:** М. Белемук — 5 амэр. даляраў. **Усяго 5 даляраў.**

30. **Падпісны ліст № 12а, зьбіральнік сп. Б. Даніловіч:** Я. Місюль — 1 амэр. даляр, З. Дубяга — 1, М. Лабовіч — 1, В. Р. — 1, В. Бабёр — 1, Я. Вініцкі — 1, В. Грузд — 1, У. Лосік — 1, А. Валюшка — 1, П. Пецько — 1, І. М. Майсеёнак — 1, Я. Падгайскі — 1, В. Захаркевіч — 1, А. Урбановіч — 1, Я. Арцюх — 1, К. Мерляк — 1, Я. Ніхаёнак — 1, М. Рагуля — 1, М. Стасевіч — 1, Я. Юхнавец — 1. **Разам 20 даляраў.**

31. **Падпісны ліст № 12, зьбіральнік сп. Б. Даніловіч:** У. Машанскі — 2 амэр. даляры, В. Стома — 2, А. Стагановіч — 3, А. Корбут — 1, Ф. Каранеўскі — 1, Д. Дзядовіч — 1, Ч. Ханяўка — 1, П. М. — 2, П. Кажура — 5, А. Балкоўскі — 1, Я. Дубяга — 1, У. Шульжыцкі — 1, А. Будзька — 1,50, Я. Азарка — 2, П. Талмачавец — 1, А. Машанскі — 1, М. Філіповіч — 1, С. Гутырчык — 1, П. Кулеш — 1, М. Войтанка — 0,50, М. Сокал — 5, З. Малаковіч — 1, А. Ярашэвіч — 1. А. Непейн — 1, Я. Чыгіровіч — 1, М. Васанскі — 1. **Разам 40 даляраў.**

**Усім Паважаным Грамадзянам, што далі складкі, як і Паважаным Зьбіральнікам выражаем падзяку.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

**Р. СКЛЮТ** 13)

# Званар Адраджэньня

**(ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ)**

**(Працяг)**

### XII

Аддаючы першую й галоўную ўвагу распрацаваньню й прапагаваньню асноваў «крыўскае тэорыі», Ластоўскі аднак не абмежвае свае дзейнасьці ў «Крывічы» й іншых выданьнях адно гэтым. На другім, але наўдачу, каб менш паважным месцы ў яго распрацаваньне праблемаў нашае мовы, канкрэтней — слоўніцтва, яшчэ канкрэтней — сынанімікі. Пасьля цэлага сьцягу зацемак — «запісак» пра паасобныя словы нашае мовы ды артыкулаў пра пэўныя групы ейных сынонімаў — «аднасловаў» у «Крывічы», Ластоўскі выдае ў 1924 г. найкапітальнейшы й дасюль «Расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік», якому ён надае часткавы характар слоўніка, з аднаго боку, сынанімічнага, а, з другога, тлумачальнага — «талковага» — спроба, першая й дасюль адзіная ў нас. Пасьля выданьня слоўніка і ў «Крывічы», і ў іншых выданьнях («Гісторыя крыўскай кнігі») ня перастаюць зьяўляцца далейшыя зацемкі — «запіскі» аб паасобных словах і цэлыя слоўнічкі іх.

Цікава, што гэтая праца Ластоўскага над сынанімікаю нашае мовы супадае ў часе з працаю над ейным сынтаксам і фразэалёгіяй, якую падняў тады ў Савецкай Беларусі Язэп Лёсік — ды навет пад тым самым «крывічанскім сьцягам, наколькі дазвалялі абставіны («Некаторыя ўвагі да нашае літаратурнае мовы», «Сынтакс беларускае мовы» — абедзьве працы 1924 г.). Гэтак два з найсьвятлейшых мужоў нашага адраджэньня адначасна, хоць і на розных нзялянках, бяруцца за ўзорваньне апушчанае нівы нашае мовы — гэтае найгалаўнейшае асновы нашае нацыянальнае індывідуальнасьці, пад адным і тым-жа, як сказана ўжо, «крывічанскім» сьцягам індывідуалізацыі, гэтак шмат спрычыняючыся да вызначэньня асноўных кірукаў далейшага разьвіцьця індывідуалізаванае й нарматывізаванае літаратурнае мовы заміж пярэстае й часта жарганізаванае саматужнае гаворкі, што ёю карысталася пісьменства першых часоў адраджэньня запраўды. Пасьля ўстанеўленьня асноваў граматыкі й правапісу нашае літаратурнае мовы Б. Тарашкевічам у 1918 г., кагадзе ўспомненыя працы Ластоўскага й Лёсіка ў 1924 г. становяць сабою найбольшы ўклад у справу распрацаваньня й нарматывізацыі яе.

Як ужо можна бачыць з папярэдніх радкоў, у сваёй працы над нашай літаратурнай моваю, ейным слоўніцтвам, Ластоўскі кіруецца ў васноўным тым самым прынцыпам індывідуалізацыі ў нацыянальным дачыненьні, які становіць сабою асноўную існасьць ягонае «крыўскае тэорыі». У прадмове да свайго слоўніка ён так фармулюе гэты прынцып практычным прытарнаваньні яго да слоўніцтва: «Наша мова тады толькі здолее разьвіцца, калі патрапіць выявіць сваю выразна зарысаваную індывідуальнасьць, а гэтым самым дакажа рацыю свайго існаваньня, і калі патрапіць абараніцца ад асымілюючага ўплыву суседніх грамадных народаў: Расейцаў, Палякоў, Украінцаў. Дзеля гэтага трэба памятаць, што кажнае чужое слова, занесенае ў мову, асымілюе, зьлівае мову з суседзкай, забівае яе асобны характар, а таму трэба, асабліва пішучы, высьцерагацца ўжываць сходныя з суседзкімі словамі, хоць-бы яны й былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў, але існуюць у здаровай нашай народнай стыхіі» б. V), і крыху далей: «Немаль усе досьледы над нашай мовай маюць у васнове сваёй хвальшывы выхад, што мова крыўская зьяўляецца нейкім зьлепкам, ня маючым свае індывідуальнасьці, і, прыступаючы з гэтай мысьляй да досьледаў яе, шукалі ў ёй ня рысаў яе ўласнай асобнасьці, а наадварот, сходнасьці зь ведамымі ім мовамі, найчасьцей расейскай ды польскай» (б. V), ды нарэшце: «Аднак, народ наш захаваў яшчэ такое вялікае багацьце слоў, зваротаў і выславаў, цалком арыгінальных і ў дадатку нікім дагэтуль не заграбленых, што безь вялікіх трудоў можна яшчэ мову нашу збагаціць тысячамі слоў, цалком самаістых, якія могуць лёгка заступіць накінутыя нам чужыя словы, або й нашы, ды ўжо засьміляваныя чужынцамі» (б. VI).

Гэтак асноўны ідэйны, сказаць-бы «крыўскі», прынцып Ластоўскага — прынцып нацыянальнае індывідуалізацыі ў прытарнаваньні да мовы абарачаецца ў лінію г. зв. «пурызму», г. зн. змаганьня за чысьціню мовы, за ачышчэньне ад чужыншчыны. Пры гэтым трэба адразу-ж падчыркнуць, што гэты пурызм Ластоўскага абарачаецца ня супраць чужых элемэнтаў — «барбарызмаў», як такіх, а супраць тых, першым і галоўным чынам, што «асымілююць, зьліваюць» нашу мову з суседзкімі мовамі, што імкнуцца да гэткай асыміляцыі яе — мовамі расейскай, польскай, украінскай — супраць, казаў той, «асымілізмаў» з расейскага, польскага ці ўкраінскага боку («русыцызмаў, полёнізмаў», «украінізмаў»). Разам з гэтым, зь яшчэ большай увагай, як асаблівасьць лініі якраз Ластоўскага, трэба адзначыць тое, што ў гэтыя «асымілізмы» ён улучае ня толькі «барбарызмы» ў звычайным разуменьні гэтага слова — ня толькі элемэнты «чужыя», «занесеныя ў мову», «накінутыя нам», супраць якіх звычайна й выступаюць пурыстыя, але, нароўні з гэтым, і элемэнты «сходныя з суседзкімі, хоць-бы яны й былі ў мове», элемэнты „нашы", ды ўжо засьміляваныя чужынцамі». Усім гэтым пурызм Ластоўскага выгодна выразьняецца, з аднаго боку, ад практыкаванага ў нас некаторымі выкараненьня барбарызмаў, як такіх, хоць-бы яны й ня былі «асымілізмамі» (скажам, якога-небудзь бязьвіннага гэрманізму «рыхтаваць» пры нязнанасьці яго якраз асымілюючым нашу суседзкім мовам, да якіх нямецкая мова не належыць) пры талераваньні й нат насаджэньні яўных «асымілізмаў», хоць і свайго паходжаньня (да таго-ж, не заўсёды й абсалютна пэўнага, як, прыкл., якое-небудзь «учасьце», або такі выяўны «асымілізм», як «гатаваць» на зьмену кагадзе ўспомненага «рыхтаваць»). З другога боку, гэтая лінія, як неба над зямлёй, узвышаецца над вельмі пашыранай (ня толькі ў сьведамых дэнацыяналізатараў, нажаль) тэорыяй і практыкай будаваньня мовы якраз на тых «сходных» элемэнтах, як на быццам-бы, «звароце назад нарабаванага», а то й зусім навет нейкае «экспансіі» (быццам-бы «нацыяналістычна»-гучнае, а на самой рэчы зусім непрадуманае слоўца, у дадзеных абставінах фактычна якраз дэнацыяналізацыйнага сэнсу, як ужо было добра адзначана ў ваднэй нядаўнай палеміцы пра нашую літаратурную мову).

Выстаўляючы прынцып найбольшае нацыянальнае індывідуалізацыі нашае літаратурнае мовы, Ластоўскі аднак ня кіруецца ім пры ўкладаньні свайго слоўніка нагэтулькі сьлепа, каб абмежыць самы набор словаў у гэтым слоўніку толькі да тых, «якіх няма ў чужынцаў, але існуюць у здаровай нашай народнай стыхіі». Апошнім ён толькі аддае перавагу, паміма пяршынства сярод іншых сынонімаў, часта тых-жа «асымілізмаў» у прынцыпе, надаючы крытэрыю індывідуалізацыі толькі рэкамэндацыйны характар прынцыпу адбору словаў пры карыстаньні слоўнікам. Толькі выяўныя «жарганізмы» пакідаюцца ім за межамі слоўніка, дый то кажны раз з адпаведным абгрунтаваньнем (як прыкл. «адсутнасьць», б. 435, «прысутнасьць, б. 555, «ненадзейны», «неабходны», б. 371, «марыць», б. 136, «адносны», б. 431 і інш.) і, пэўна-ж, з паданьнем адпаведных нежаргонных словаў («немень»; «прытымбыцьцё», «няпэўны», «канечны», «лятуцецъ», «датычны», «узглядны»). Калі часам такога абгрунтаваньня-паказаньня няма, дык адно ў тых разох, калі Ластоўскі, як відаць, не дапушчаў нат самое магчымасьці зьяўленьня ў літаратурнай мове падобнага жарганізму й таму зусім не падаваў яго (як прыкл., «падпольны» замест «падземны», б. 489, «насяленьне» ці «насельніцтва» замест «жыхарства», б. 355, «расьліна» замест «расьціна», б. 604, «упэўніцца» замест «дапэўніцца», б. 717, «нахілена» замест «пахіла», б. 348 і інш.), або яшчэ хістаўся ў далучэньні яго да жарганізмаў і падаваў зь некатэгарычнымі зацемкамі (як, прыкл., «продкі» побач із «прашчуры», б. 534) або нат і бязь іх («палымнець» побач із «паланець», б. 475, «ліставаньне» побач ізь «перапіска», б. 473).

**(Далей будзе)**